БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

20 студзеня 1994 г.
Чацвер
№ 7 (13723)
Кошт у розніцу 20 рублёў
Выдаецца з 1921 года




Малюе Віктар ДУБОВІК

*У Мінску ў першы дзень работы сесіі Вярхоўнага Савета па ініцыятыве Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі адбыўся мітынг пратэсту пад лозунгам "Рэформы — без збяднення народа!". Яго ўдзельнікі патрабавалі правядзення датэрміновых выбараў Вярхоўнага Савета, выкаранення карупцыі, спынення развалу эканомікі.*




Фота Сяргея БРУШКО.

## Кур'ер "ЧЗ"

### СТОП-ФАКТ

### Перакуём ядзерную зброю на даляры

*Міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка пацвердзіў, што пытанне аб кампенсацыі Беларусі за ўран, які ўтрымліваўся ў вывезеных з Беларусі ў Расію ядзерных боегалоўках, знаходзіцца на стадыі "перагаворнага працэсу", удзел у якім бяруць пяць дзяржаў.*

П.Краўчанка выказаў упэўненасць, што Беларусь атрымае такую кампенсацыю ў грашовым выражэнні з боку Расіі. Злучаныя Штаты, паводле слоў кіраўніка знешнепалітычнага ведамства Беларусі, пачнуць купляць уран у Расійскай Федэрацыі не раней, чым Расія, Украіна, Беларусь і Казахстан дамовяцца паміж сабой па гэтай праблеме. Гэта зноў было падкрэслена амерыканскім бокам пад час візіту ў Мінск прэзідэнта ЗША Біла Клінтана. Сума кампенсацыі Беларусі зараз праходзіць экспертную ацэнку, і для канчатковага вызначэння яе рэспубліка павінна атрымаць ад Расіі шэраг ваенна-тэхнічных даных. Дагэтуль такая інфармацыя Беларусі перададзена не была.

### Заява з нагоды арышту літоўскіх камуністаў

*Прэс-служба Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі распаўсюдзіла заяву ў сувязі з узнікшымі ў прэсе паведамленнямі аб арышце Мікаласа Буракявічуса і Юозаса Ермалавічуса.*

"У праваахоўныя органы Рэспублікі Беларусь, — гаворыцца ў заяве, — на працягу мінулага года неаднаразова паступалі звароты ад генеральнага пракурора Рэспублікі Літва з просьбай аказаць садзеянне ў выдачы Буракявічуса і Ермалавічуса, абвешчаных літоўскім бокам у міждзяржаўны вышук...у адпаведнасці з дагаворам паміж Беларуссю і Літвой аб дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах, падпісаным у кастрычніку 1992 года і ратыфікаваным Вярхоўным Саветам Беларусі ў лютым 1993 года, беларускім бокам было аказана садзеянне групе работнікаў праваахоўных органаў Літвы, якую ўзначальваў намеснік генеральнага пракурора, у затрыманні ў Мінску 15 студзеня грамадзян Буракявічуса і Ермалавічуса". У заяве канстатуецца, што "дзеянні супрацоўнікаў праваахоўных органаў Беларусі адпавядаюць вышэйназванаму дагавору і міжнародным прававым нормам".

БелаПАН.

### Толькі цяпер мы ў СНД

*У аўторак пасля перапынку аднавіла сваю работу 13-я сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.*

Першы парламенцкі дзень прынёс вынік. На ранішнім пасяджэнні, пасля актыўнага абмеркавання пытання аб ратыфікацыі Статута СНД было прынята рашэнне "за". За ратыфікацыю дакумента прагаласавала выключная большасць дэпутатаў. Зазначым, калі б гэтага не адбылося да нуля гадзін 23 студзеня 1994 года, Беларусь засталася б па-за рамкамі Садружнасці.

Памяркоўнасць дэпутатаў у гэты дзень была зайздроснай. Яны нават не дужа пярэчылі Старшыні Вярхоўнага Савета, калі той прапанаваў працягнуць у сераду абмеркаванне Канстытуцыі рэспублікі. Калі так будзе працягвацца далей, Вярхоўны Савет у законатворчай дзейнасці зробіць значны крок наперад. Але не будзем загадваць...

### Мільярд за інфармацыю

*Нятанна абышлося рашэнне народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь аб трансляцыі 13-й сесіі Вярхоўнага Савета па радыё і тэлебачанні.*

Аб затратах на гэту справу мы даведаліся ў аддзеле друку, радыё і тэлебачання кіраўніцтва справаў Савета Міністраў Беларусі. Такім чынам, штодзённыя затраты Белтэлерадыёкампаніі на аплату яе супрацоўнікаў, якія асвятлялі работу сесіі з 9.11. па 10.12.1993 г. склалі ў сярэднім 1 млн. 747 тыс. рублёў.

Сярэдні штодзённы кошт эксплуатацыі тэлерадыё, якое выкарыстоўвалася для арганізацыі перадач у дні работы сесіі з 9.11. па 10. 12.1993 г. склаў 10 млн. 512 тыс. рублёў.

Усяго штодзённыя затраты Белтэлерадыёкампаніі ў дні трансляцыі сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у лістападзе—снежні склалі ў сярэднім 21 млн. 882 тыс. рублёў. У тым ліку на долю тэлебачання даводзіцца — 17 млн. 663 тыс. руб., радыё — 4 млн. 219 тыс. руб.

Такім чынам, увесь інфармацыйны цыкл сесіі абходзіцца падаткаплацельшчыкам амаль у мільярд рублёў.

Вольга ШАЎКО.

### Гэта ўжо далёка не сенсацыя

*З 20 студзеня зноў падскочылі цэны. На гэты раз на прыгарадныя аўтобусы.*

Білеты на іх узняліся ў 1,8 раза. Цяпер адзін кіламетр праезду ў мяккім аўтобусе каштуе 20 рублёў, у цвёрдым — 18. Асабліва адаб'ецца гэта павышэнне на людзях, якім прыходзіцца курсіраваць з прыгарадаў на працу ў сталіцу і назад.

А.СЦЯПАНАЎ.

### "Шкодныя" цацкі

*Па ініцыятыве Міністэрства аховы здароўя ў Савеце Міністраў рэспублікі амаль што падрыхтаваны дакумент, які будзе рэгламентаваць парадак увозу і рэалізацыі імпартных тавараў на тэрыторыі Беларусі.*

Справа ў тым, што тавары, якія імпартуюцца ў нашу краіну вялікімі аптовымі партыямі (асабліва гэта тычыцца прадуктаў харчавання) праходзяць экспертызу высокакваліфікаваных спецыялістаў. Іх якасць гарантуецца. А вось як быць з падпольнымі партыямі шакаладу ці цукерак, напіткаў ці цыгарэт, якія штодзень асядаюць у "камках" пасля ваяжу самадзейных камерсантаў без ліцэнзій?

Толькі за мінулы год быў забаронены продаж звыш 200 тон прадуктаў харчавання. За парушэнні правілаў продажу тавараў канфіскаваны 54 ліцэнзіі на права гандлю, 17 спраў накіравана на разгляд у органы пракуратуры. А зусім нядаўна эксперты забаранілі, напрыклад, продаж дзіцячых цацак з Украіны, у якіх былі знойдзены элементы цяжкіх, небяспечных для чалавека маталаў.

Ірына ШУКЕВІЧ, ЧЗ-інфарм.

### Аты–баты, служыць ідуць салдаты

*Не так даўно амаль ва ўсіх ваенных часцях Мінска і Мінскай вобласці прынялі прысягу маладыя салдаты тэрміновай службы — прызыўнікі восені 1993 года.*

Як паведамілі ў Ваенным камісарыяце Беларусі, восенню мінулага года па Мінску і Мінскай вобласці ў войска былі прызваны больш як 5000 юнакоў. Але больш чым палова з іх — каля 3000 — не прайшлі медыцынскую камісію.

Лідзія РЫЖАНКОВА.

### Непаўналетнія хварэюць ад "кахання"

У мінулым годзе ў Крычаве зарэгістравана 11 выпадкаў заражэння сіфілісам, прычым два прыпадаюць на навучэнцаў двух гарадскіх ПТВ. Крыніцай заражэння стала 15-гадовая дзяўчына, якая ў сваю чаргу гэту небяспечную хваробу атрымала ў "падарунак" ад свайго знаёмага, таксама непаўналетняга хлопца, навучэнца Клімавіцкага тэхнікума.Як высветлілася, дзяўчына мела ў агульнай складанасці 12 палавых кантактаў. Большасць яе партнёраў, на шчасце, не захварэла. Праўда, такі ранні "старт" у наш час — з'ява звычайная, аб чым сведчыць абследаванне, якое праводзілася ў горадзе медыкамі сярод школьнікаў і вучняў ПТВ. Як высветлілася, непаўналетнія і тут "не ўдарылі ў гразь тварам" — захворванне сіфілісам выяўлена ў школьніка і навучэнца ПТВ.

БелаПАН.

### Курсы валют на 19 студзеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Бел-бізнесбанк" | 5500 | 5800 | 3150 | 3350 |
| "Прыёр" | 5500 | 5750 | 3130 | 3280 |

*(У дужках —курс за безнаяўны разлік)*

### АКТУАЛЬНЫ КАМЕНТАР

## "Выбар Расіі" не ў Беларусі?

□ Вера ПАЛЯКОВА, ЧЗ-інфарм.

*Мы ўсе, і тыя, хто за аб'яднанне абедзвюма рукамі, і тыя, хто супраць, знаходзімся ў стане напружанага чакання: чым жа скончыцца студзень-94, бо сапраўды мы зараз знаходзімся на пераломным этапе.*

Кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь бачыць у трывалым эканамічным саюзе з Расіяй, аб'яднанні грашовых сістэм адзіны сродак, каб захаваць незалежнасць нашай рэспублікі і ўрэшце выкараскацца з зацягнутага крызісу. Але, як вядома, гэтую думку падзяляюць далёка не ўсе палітычныя колы. Вось хто ўздыхне з палёгкай, дык гэта вытворцы і прадпрымальнікі.

Шчыра кажучы, у асяроддзі эканамістаў, фінансістаў лічаць, што ўваход Беларусі ў рублёвую зону непазбежны. Канешне, гэта лепей было зрабіць два гады таму — танней абышлося б. Або ўзяць накірунак краін Балтыі. На жаль, час упушчаны. Калі выключыць эканамічны саюз з Расіяй, мы шпарка і мэтанакіравана крочым па шляху, з якога адчайна спрабуе збочыць Украіна. Працяглы агульнаэканамічны крызіс без ніякай надзеі і перспектыў — смерць для любой краіны. Мы можам пратрымацца на плаве за кошт навукаёмістай вытворчасці, так званых "мазгоў", яшчэ год-два. Аднак, калі закатаваныя мізэрнымі заробкамі высокакваліфікаваныя спецыялісты пакінуць лабараторыі і спецыялізаваныя цэхі ў пошуках больш грашовага месца пад сонцам, то ў свеце стане на адну "бананавую рэспубліку" больш. Тады пазбегнуць пранікнення расійскага капіталу на Беларусь, ягонай экспансіі немагчыма.

Здаецца, нікому не трэба даказваць, што інтарэсы Беларусі ляжаць, перш за ўсё і больш за ўсё, на Усходзе, у Расіі, краінах Садружнасці. Як паказвае вопыт незалежнасці, на Захадзе нас ніхто не чакае. "Загніваючыя" суседзі па кантыненту і заакіянскія бізнесмены ставяць Беларусь апошняй у СНД адносна інвестыцый, маўляў, пракамуністычны рэжым, поўная адсутнасць рэформ. Трэба глядзець праўдзе ў вочы: невысокі рэйтынг нашай рэспублікі і ў Расіі. Гэта паказаў візіт Прэзідэнта ЗША, а той факт, што Біл Клінтан сустракаўся пры зачыненых дзвярах з Зянонам Пазьняком, аб чым-небудзь ды гаворыць.

Эканамічны саюз з Расіяй — крок наколькі неабходны для нас, настолькі і вымушаны. Эканоміка Беларусі стаіць на мяжы катастрофы. Улічваючы сусветны кошт на расійскую сыравіну, мытныя пошліны і ўласную жудасную падатковую палітыку, імкнучыся пазбавіцца ад прэсінгу Расіі, кіраўніцтва Беларусі кінулася да інтэграцыі з "усходнім братам", нягледзячы на тое, што эканамічны саюз патрабуе пэўнага абмежавання палітычнага суверэнітэту. Тым не менш, лічыцца, што гэта дасць Беларусі шанц перамагчы крызіс зрушыцца з мёртвага пункту. Стварэнне адзінай рублёвай зоны з адзіным грашовым сродкам — расійскім рублём, а ў выніку гэтага ўвядзенне прынцыпаў і метадаў больш прагрэсіўнай падатковай сістэмы РФ на Беларусі, пашырэнне таварнага рынку — гасцінец, які вядзе нас да цывілізацыі.

Але ўсё гэта плюсы ў наш бок. Сапраўды, што мы можам прапанаваць у адказ Расіі? Крызісную эканоміку і саміх сябе з усімі вантробамі. Для Расіі аб'яднанне грашовых сістэм — крок больш палітычны, чым эканамічны. Да ўтварэння такога саюза вельмі адмоўна адазваўся былы віцэ-прэм'ер расійскага ўрада Ягор Гайдар. Нас, як маленькага хлопчыка з сабакам у вядомай рэкламе блоку "Выбар Расіі", пакуль бяруць не вельмі ахвотна.

■

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

### "Еўраньюс"




### Калядныя маразы ў паўднёвай Каліфорніі

*У той час, як у нас на Вадохрышча надвор'е стаіць зусім не марознае, на паўднёвую Каліфорнію абрушыліся замаразкі і снегапад незвычайнай сілы.*

Таўшчыня снежнага пакрова дасягнула 35 сантыметраў. Раён аб'яўлены зонай надзвычайнай сітуацыі. У снезе вязнуць нават цегачы. Дзесяткі аэрапортаў вымушаны адмяніць рэйсы з-за дрэннага надвор'я. Вялікая колькасць труб ацяпляльнай сістэмы замерзла ці парвалася. Асабліва цяжка бяздомным. Сярэдняя тэмпература паветра — -25°.

### Да пытання аб перайменаванні вуліц

*Аказваецца, даваць новыя назвы вуліцам любяць не толькі ў нас. Напрыклад, у сталіцы Германіі разгарэлася дыскусія наконт назваў вуліц, якія нейкім чынам нагадваюць пра сацыялістычнае мінулае.*

Асабліва "дасталася" тым берлінскім вуліцам, якія носяць імёны Карла Маркса, Клары Цэткін, Розы Люксембург. Рашэнне гарадскіх улад аб перайменаванні гэтых вуліц выклікала негатыўную рэакцыю, асабліва ў сталых людзей, якія лічаць, што недапушчальна мяняць гісторыю.

### "Суперчэннэл"

### Нападзенне на алімпійцаў

*Двое неанацыстаў асуджаны ў Германіі за нападзенне на прадстаўнікоў алімпійскай зборнай ЗША.*

З моманту аб'яднання Германіі адбылося ўжо больш як 5 тысяч выпадкаў праявы неанацызму. Аднак гэта першы інцыдэнт, у якім напалі на амерыканцаў, прычым, адзін з іх негр. На судзе малойчыкі заявілі: "Негры — выхадцы з Афрыкі. Яны выйшлі з зараснікаў, мы хацелі даказаць ім, што яны малпы"...

### "Кветкі" з Амстэрдама

*Брытанскія мытнікі затрымалі партыю калумбійскага какаіну, прыкладным коштам у 50 мільёнаў фунтаў.*

Наркотык быў схаваны ў вялікай колькасці кветак, пастаўленых з Амстэрдама. Арыштаваны ўдзельнікі "аперацыі" — двое калумбійцаў.

### Помста мафіі?

*Двое паліцэйскіх застрэлены ва ўласнай аўтамашыне пад час дзяжурства на адным з буйных аўтабанаў Італіі.*

Мяркуецца, што гэта справа рук італьянскай мафіі — вынік арышту італьянскімі ўладамі за апошнія месяцы каля 1,5 тысячы людзей, якія хоць нейкім чынам былі звязаны з мафіяй.

### "Уорлднэт"

### Мэйджар "нячысты на руку"?

*Сумленнасць брытанскага прэм'ер-міністра днямі была падвергнута сумненню.*

Мэйджару давялося ўдзельнічаць у перакрыжаваным допыце наконт продажу зброі Іраку. Ён абвяргае, што ведаў аб аслабленні эмбарга на гандаль зброі з Іранам і Іракам.

### Канец "гандлёвай вайны"?

*ЗША і Кітай часова спынілі "гандлёвую вайну", якая працягвалася апошнія гады.*

У Пекіне падпісана пагадненне, па якому ЗША атрымалі права на правядзенне інспекцыі кітайскіх прадпрыемстваў, якія падазраюцца ў нелегальным экспарце тавараў у Амерыку. Кітай быў вымушаны падпісаць дамоўленасць пасля таго, як гандлёвы прадстаўнік ЗША аддаў распараджэнне на чарговае памяншэнне гандлёвай квоты з гэтай краінай.

### "Еўраньюс"

### Бітвы вярблюдаў

*штогод праводзяцца ў Турцыі.*

Для многіх жыхароў дзяржавы гэта сапраўднае нацыянальнае свята. Сотні тысяч людзей наведваюць так званыя "рынгі вярблюдаў", тут заключаюцца пары, вядуцца гарачыя спрэчкі. Гаспадар вярблюда-пераможцы атрымлівае грошы і прызы. Самі ж вярблюды сыходзяць з рынга ні з чым.

■

**Бізнес-клас**

*Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА*

**Тэл. 68-28-52**

### Замежны прававы вопыт на Беларусі

Днямі ў Мінску адбыўся семінар па міжнароднаму прыватнаму праву, арганізаваны Гандлёва-прамысловай палатай, юрыдычнай фірмай "Траст" і Саюзам прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь. Правялі яго спецыялісты вядомай юрыдычнай фірмы з Германіі "Baker і MeKSEMZIE" і прадстаўнікі Гандлёвай палаты Рэспублікі Польшча.

### Да ўвагі спажыўцоў

Хай вас не зачароўвае прывабная этыкетка ці ўвесь выгляд любой прадукцыі замежнай вытворчасці: заўсёды звяртайце ўвагу на ягоныя "апазнавальныя знакі". На арыгінальнай прадукцыі імпартнай вытворчасці абавязкова ёсць наступныя звесткі. "Prod.: і лічба, якая азначае дату вытворчасці, а таксама "Exp.: таксама дата (месяц, год) рэалізацыі. Акрамя таго абавязкова павінен быць штрых-код, які "чытае" электронны апарат і літаравае абазначэнне краіны і вытворцы. Калі хаця б адзіны з гэтых параметраў адсутнічае на маркіроўцы, гэта сведчыць аб тым, што да вас трапіў фальсіфікаваны тавар. Будзьце пільныя, бо падробка, асабліва калі гэта тычыць прадуктаў харчавання, можа аказацца не зусім бяспечнай для вашага здароўя.

### Цэны растуць не толькі ў Беларусі

Можа ў некаторай ступені суцешыць жыхароў нашай рэспублікі той факт, што ў нашых паўночных суседзяў цэны растуць таксама. У Літве сітуацыя выглядае больш стабільна ў параўнанні з астатнімі краінамі Балтыі, аднак цэны на мясныя прадукты, яйкі, садавіну і агародніну значна скокнулі. Цэны на мяса і мясныя прадукты ў Латвіі напрыканцы мінулага года ўзняліся ў сярэднім на 59 працэнтаў, на малочныя — на 53 працэнты, на яйкі — на 51 працэнт. У Эстоніі рост цэн абумоўлены ў асноўным падаражаннем прамысловых тавараў на 5,2 працэнта. На прадукты харчавання цэны павялічыліся на 3,8 працэнта. Больш за ўсё падаражалі садавіна і агародніна (16 працэнтаў), мяса (4,3 працэнта), малочныя прадукты і яйкі (4,1 працэнта). Паслугі сталі даражэй на 2,8 працэнта, а ўсе тавары цалкам — на 4,4 працэнта.

### Замест усходняга – славянскі

Зараз у Мінску праходзіць выстава-кірмаш "Усходнія таргі", у якой прымаюць удзел больш за 100 фірм з Беларусі, Украіны, Расіі, Польшчы, Латвіі і іншых дзяржаў. Планавалася, што на кірмаш прыедзе больш прадстаўнікоў з Азіі, але з усіх запрошаных тутэйшых фірм да нас завітала толькі адна. У аргкамітэце паведамілі, што гэта адбылося з-за цяжкасцей, звязаных з узаемнымі плацяжамі паміж азіяцкімі краінамі і Беларуссю, і нестабільным становішчам у нашай рэспубліцы. Відаць, не атрымаўся ў арганізатараў усходні кірмаш. Затое выйшаў славянскі.

Лідзія РЫЖАНКОВА.

### Аўкцыён

14 студзеня ў Маладзечна былі праведзены таргі па продажу камунальнай уласнасці на конкурснай аснове. Арганізатары — Заходняя біржа нерухомасці і Маладзечанскі "Бізнес-цэнтр". Дарэчы, гэта ўжо восьмыя прыватызацыйныя таргі на рахунку ў ЗБН.

Былі выстаўлены такія салідныя аб'екты, як рэстаран "Стары замак" з пачатковым коштам 1 млрд. 152 млн. руб. і двухпавярховая гасцініца ў Радашковічах (54 млн. руб.) і тры магазіны ў Маладзечна. Пакупнікі "кінулі вока" перш за ўсё на вінна-гарэлачны магазін № 12 (пачатковая цана 35,07 млн. руб.) і прадуктовы № 4 з пачатковым коштам 1 млн. 138 тыс. 220 руб.(!). Апошні быў прададзены па конкурсу за 3,5 млн. руб. Крытэрыем выяўлення пераможцаў было "найбольш поўнае задавальненне ўмоў конкурсу, сацыяльных патрэб насельніцтва горада". Што тычыцца вінна-гарэлачнага, то з чатырох пададзеных на яго заявак дзве былі прызнаны конкурснай камісіяй задавальняючымі "ўмовы і патрабаванні" аднолькава, паміж імі быў арганізаваны аўкцыён. У выніку за магазін было ададзена 130 млн. рублёў, што ў чатыры разы больш за першапачатковую цану.

Як паведаміў нам віцэ-прэзідэнт ЗБН спадар Мікалай Трыфанаў, наступныя прыватызацыйныя аўкцыёны будуць праводзіцца 27 студзеня ў Гомелі і 17 лютага ў Полацку. Дарэчы, на Полацкім аўкцыёне акрамя іншых аб'ектаў выстаўляецца крыты рынак у цэнтры Наваполацка.

Словам, умовы Міжнароднага Валютнага фонду па частцы прыватызацыі, неабходнай для атрымання крэдытаў Рэспублікай Беларусь, пачынаюць выконвацца.

**ЭКАНОМІКА**

# Грошы пад нагамі,
## або Як стаць мільянерам

□ Яўхім ІВАНОВІЧ

*Бадай, усім нам нямала намазолілі вочы перакупшчыкі і мяняльы, якія з велізарнымі мяшкамі і торбамі ціснуцца ў гарадскі транспарт, каб дабрацца да гандлёвага месца. Калі ж хто не вытрымае іх напорыстасці і заўважыць, што лепш заняліся б вытворчай дзейнасцю, а не спекуляцыяй, пачуеш незадаволенае: а як ёю заняцца? Адкуль узяць сыравіну, вытворчыя плошчы, сродкі?*

Калі чую падобнае, заўсёды згадваю шаўца Сцяпана Іванавіча Жукава. Пільны гаспадар і майстар на ўсе рукі, ён не мог перанесці марнатраўства. Напрыклад, ён заўсёды злаваўся, калі хто-небудзь з жыхароў дома скідваў у скрыню для смецця абутак, які стаў непатрэбным. У ім жа, гарачыўся Жукаў, добрая палова — верх, халяўкі з натуральнай ці сінтэтычнай скуры — застаюцца амаль некранутымі. Між тым, на галантарэйных і кушнерскіх прадпрыемствах змагаюцца за кожны абрэзак, пускаюць яго ў справу. А тут кідаюцца такімі кавалкамі.

Вось і падумалася Сцяпану Іванавічу: хіба гэта не адны з тых грошай, да якіх варта толькі нахіліцца. На самай справе, калі б абутак, які стаў непатрэбным, збіраць, як гэта робіцца з макулатурай, металаломам, дык колькі назапасілася б каштоўнай сыравіны, колькі можна было б вырабіць розных рэчаў са скуры, напрыклад кашалькоў, футляраў, дзіцячых сумак і шмат іншага, што неабходна ў быце.

Як чалавек, у якога словы не разыходзяцца са справай, Жукаў задумаў ператварыць сваю ідэю ў практыку. З гэтай мэтай наведаў прадпрыемствы, вытворчасць якіх звязана са скуранымі вырабамі. Там сустрэў разуменне, задуму ўхвалілі, палічылі рэальнай і цалкам ажыццявімай. Толькі пры гэтым з жалем дадавалі: у нас дзяржаўны план, яго трэба выконваць. Так што, прабачце...

Жукаў за справу ўзяўся сам. Здабыў ужо вядомую сыравіну, сканструяваў формы будучых рэчаў, а сродкам вытворчасці стала ўласная швейная машына. Так неўзабаве з'явіліся гатовыя рэчы, тыя самыя кашалькі і футлярчыкі, пра якія ён марыў. Як і чакалася, пакупнікі не прымусілі доўга стаяць на рынку — раскупілі тавар хутка. Выручка цалкам апраўдала затрачаную працу.

Аднак доўга гэта не магло працягвацца, бо ўсё адбывалася ў тыя часы, калі пра прыватную вытворчасць і гаварыць нельга было. Аднойчы Жукаў быў выкрыты кантрольнымі органамі, справа скончылася тым, што Сцяпана Іванавіча ледзь не пасадзілі як падпольнага прыватніка.

Сёння і прадпрымальніцтва, і рынкачныя адносіны атрымалі поўнае права на свабоднае развіццё, нават сцвярджаецца, што ў гэтым наша выратаванне. На жаль, пакуль гэты працэс ідзе аднабакова, толькі ў плане куплю-прадам, што стварае "дзікі" рынак, які так усіх раздражняе. Дэфіцыты ж вымагаюць таго, каб развівалася вытворчае прадпрымальніцтва, якое папоўніла б рынак новымі таварамі. Дык чаму ж для гэтай мэты не выкарыстаць тое, што валяецца літаральна пад нагамі і да чаго варта толькі нахіліцца?

Хтосьці можа сказаць, дробязі ўсё гэта, ніякага надвор'я яны не могуць зрабіць. Але ж падобныя "дробязі" ў нас на кожным кроку. А ў добрых і ашчадных гаспадароў няма дробязей, усё ідзе ў справу, усё павялічвае прыбытак.

**РЭПАРТАЖ У НУМАР**

# Дванаццаты нумар — лічба сяброўства

□ Ірына ЗАВАДСКАЯ

Аднаго разу, а дакладней 10 гадоў назад, у школьнікаў 12-й школы г.Тарту з'явілася дзіўная ідэя — запрасіць да сябе ў госці школы, што пазначаны гэтакім жа нумарам, з усіх гарадоў-герояў СССР. Сяброўская сустрэча адбылася сапраўды на "вышэйшым узроўні" і настолькі ўдала, што праз год 12-я школы сустракаліся ўжо ў Ленінградзе. З таго часу так і пайшло — кожны год у новым горадзе. Фестывалі сяброўства зрабіліся традыцыйнымі.

А ў 1990 годзе адбыўся апошні такі фестываль — страціліся сувязі паміж рэспублікамі, аслаблі кантакты і паміж школамі. Але надта ўжо цікавая была тая ідэя, ды й помніліся яшчэ мінулыя сустрэчы — і мінская СШ № 12 (якая, дарэчы, запрашала да сябе сяброў у 87-м годзе) адважылася на чарговы Фестываль сяброўства пад час сёлетніх зімовых канікул. Аднаўляць традыцыю зноў у Прыбалтыцы было ўжо немагчыма — адны візы маглі б каштаваць немаведама колькі. Таму школьны парламент СШ № 12 г.Мінска ўзяў увесь цяжар па адраджэнню фестывалю на сябе. Даслалі лісты-запрашэнні аж па 15 адрасах — і атрымалі... толькі 6 адказаў. Але было ясна — фестываль адбудзецца.

Удзел у святе прымалі вучнёўскія дэлегацыі з Рыгі (адзіная 12-я школа з Прыбалтыкі, што засталася рускамоўнай), Санкт-Пецярбурга, Брэста, Віцебска і Гомеля. Вельмі хацелі прыехаць адэсіты, але не знайшлі спонсараў і засталіся дома. А вось у мінскіх школьнікаў свае спонсары былі — аддзел па справах моладзі Маскоўскага райвыканкама, што дапамог ім не толькі грашыма, але і арганізаваў пэўныя фестывальныя мерапрыемствы. Напрыклад, запрасіў да школьнікаў прадстаўнікоў грамадскіх дзіцячых арганізацый, што існуюць зараз на Беларусі. Між іншым, рыжскія дэлегаты былі даволі агрэсіўна настроены на гэтую размову, асабліва з нашымі піянерамі. І задаліся мэтай "пасадзіць іх у лужыну" сваімі хітрымі пытаннямі. А ў рэшце рэшт пазайздросцілі, што ў беларускіх падлеткаў ёсць такія разумныя і адукаваныя лідэры. Дарэчы, у Латвіі дзіцячыя суполкі засталіся цяпер пераважна "прычэпленымі" да рэлігійных арганізацый...

Жылі дэлегаты фестывалю ў сем'ях членаў школьнага парламента. А ў мерапрыемствах удзельнічалі ўсе разам — і ў вячэрыне знаёмства, і ва ўрачыстым адкрыцці, і ў спартыўных спаборніцтвах, і нават у конкурсе "КВЗ". Праводзіўся фестываль пераважна ў памяшканні ДК "Юнацтва", таму ўдзел у ім маглі прыняць не толькі вучні 12-й СШ, але і іншых гарадскіх школ, што былі запрошаны на свята спецыяльнымі білетамі.

Карацей, мэта, што прызначылі сабе арганізатары Фестывалю сяброўства, была паспяхова дасягнута: у мінскіх школьнікаў з'явілася мноства новых знаёмых, яны дамовіліся аб сяброўскіх візітах у "замежныя дзяржавы" і, галоўнае, зразумелі, што ніякая палітыка для сапраўднага сяброўства — не перашкода.

### Зробім дзеткам прышчэпкі!

У Міністэрстве аховы здароўя рэспублікі амаль што на стадыі завяршэння знаходзіцца праграма імунапрафілактыкі насельніцтва. Пасля нядаўна прынятага Вярхоўным Саветам закона "Аб санітарна-эпідэмічным дабрабыце насельніцтва" гэта праграма — канкрэтныя крокі па рэалізацыі яго ў практыку.

Тым больш, што за апошнія два гады ў рэспубліцы з'явіліся хворыя на дыфтэрыю. Медыкі звязваюць "вяртанне" гэтай хваробы ў першую чаргу з агульным эканамічным спадам, пагаршэннем жыццёвых умоў насельніцтва. У мінулым годзе колькасць хворых на дыфтэрыю павялічылася ўдвая ў параўнанні з 1992 годам: зарэгістравана 120 выпадкаў захворвання.

Міністэрства аховы здароўя заклапочана становішчам, звязаным з гэтай хваробай, і трымае яго пад кантролем. Таму зараз ва ўсіх рэспубліканскіх дзіцячых медыцынскіх установах праводзіцца супрацьдыфтэрыйная вакцынацыя. Вакцынай для гэтых мэт усе ўстановы забяспечаны. Аднак спецыялісты раяць, што нядрэнна было б рабіць прышчэпкі і дарослым, хаця вось "гэтай палавіне чалавецтва" вакцыны можа і не хапіць. Пакуль што для дарослай часткі насельніцтва рэспубліка забяспечана вакцынай толькі на 60 працэнтаў.

Ірына ШУКЕВІЧ, ЧЗ-інфарм.

**ПА-СУСЕДСКУ**

### Дазвол на зброю

З 1 красавіка 1994 года грамадзяне Літвы, якія дасягнулі 25 гадоў, змогуць набываць і насіць агнястрэльную зброю ў мэтах самаабароны. Закон, прыняты Сеймам Літоўскай Рэспублікі, дазваляе ім мець адзін пісталет не больш чым 9-га калібру, і патроны. Пісталет не павінен быць хуткастрэльным. Дазвол на набыццё зброі будзе выдаваць Міністэрства ўнутраных спраў. Не атрымаюць такога дазволу асобы, што былі пакараны за крымінальныя злачынствы і адміністрацыйныя парушэнні, звязаныя з наркотыкамі, парушэннем грамадскага парадку, а таксама наркаманы, алкаголікі і псіхічна хворыя людзі.

Асобы, якія цяпер нелегальна захоўваюць агнястрэльную зброю і да 1 красавіка добраахвотна здадуць яе ў паліцыю, не будуць пакараны

### Супраць "Вялікай Вільні"

"Сяляне з Віленшчыны, не маючы зямлі, галадаюць, а мільянеры з Вільні на іх зямлі палацы будуюць" — пад такім і іншымі транспарантамі адбываюцца пікеты падвіленскіх сялян каля будынкаў сейма і ўправы прэзідэнта Літвы.

Сяляне пратэстуюць супраць рэалізацыі праекта "Вялікая Вільня", які прадугледжвае пашырэнне межаў гарадской забудовы за кошт зямлі жыхароў падвіленскіх вёсак. У выніку гэтыя жыхары пазбаўляюцца свайго права на вяртанне зямельнай уласнасці.

БелаПАН.

### Мінімум для сярэдняга масквіча

Паводле паведамлення ўрада Масквы, падлічаны размеры так званай "спажывецкай карзінкі" з 19 самых неабходных відаў прадуктаў. Мінімальны пражытачны ўзровень у сталіцы перавышае 80 тысяч рублёў на кожнага члена сям'і.

Расслаенне грамадства на багатых і вельмі бедных стала яшчэ больш прыкметным, нягледзячы на нядаўняе павышэнне ўзроўню зарплаты бюджэтнікам і шэрагу катэгорый масквічоў. На ўзроўні, што адпавядае патрабаванням медыцыны, цяпер жыве ўсяго толькі 3 працэнты насельніцтва. Гарадскія ўлады запэўнілі гараджан, што не пакінуць без увагі самых бедных і маламаёмных.

### Новы "БАМ"?

Добрыя старыя традыцыі не паміраюць: пад патранажам прэзідэнта Барыса Ельцына распачата новая "будоўля стагоддзя" — высакаскорасная магістраль Масква — Санкт-Пецярбург. Гэта зусім новая для Расіі спецыялізаваная двухкалейная чыгунка, па якой будуць рухацца толькі скарасныя паязды.

Агульная працягласць трасы — 654 кіламетры, скорасць саставаў — да 350 кіламетраў у гадзіну, адлегласць да Санкт-Пецярбурга будзе пройдзена суперэкспрэсамі за 2,5 гадзіны. У Маскве і Санкт-Пецярбургу побач са старымі пабудуюць новыя вакзалы. Да канца гэтага стагоддзя новая траса ўступіць у строй дзеючых.

БЕЛІНФАРМ.

**ДЗЕЦІ І МЫ**

□ Мікола КАПЫЛОВІЧ

*Нядаўна позні́м вечарам нас, суседзяў, патрывожыў вэрхал у суседняй кватэры — пранікаючы скрозь нашыя "гуканепранікаючыя" сцены, крыкі не давалі нам заснуць.*

# Спакуса

Раніцай, спускаючыся па газеты, я сутыкнуўся ў ліфце з суседкаю. Выгляд у яе быў змрочны, нейкі пакамечаны. Пазяхнуўшы, яна нібы папрасіла прабачэння: "Усю ноч не спала". "Што-небудзь здарылася?" — пацікавіўся я. "Ох, і не кажыце... Віцька наш такое выкінуў..." Мы выйшлі з пад'езда, прыселі на лаўку, і яна расказала. Увечары іх чатырнаццацігадовы сын папрасіў у яе дзве тысячы рублёў — у кагосьці з хлапчукоў дзень нараджэння, і яны збіраюцца адзначыць гэтую падзею ў кафэ. Такса — па дзве тысячы. Яна адмовіла — у сям'і няма грошай, учора пазычыла, каб неяк дацягнуць да палучкі. Хлапчук моцна пакрыўдзіўся. Прыгадаў ёй, што тыдзень назад не пайшоў на дыскатэку з аднакласнікамі — не ісці ж было ў старых штанах, якія яшчэ брат Андрэй тры гады насіў і перадаў яму "у спадчыну". Хто цяпер у такіх ходзіць? Не забыў і пра марожанае, якое зрабілася для яго амаль недаступным, недасягальным. Нават са жвачкаю складана, даводзіцца разлічваць толькі на пачастунак. Перад сябрамі сорамна...

Выказаўшы маці свае прэтэнзіі, ён ультыматыўна заявіў, што ў школу больш не пойдзе. Абрыдла прасіць кожны раз у бацькоў, бо і вучоба — пусты занятак, а грошы ён і так заробіць, "не забіваючы галаву навукай". Давялося падключыць бацьку, але сына панесла ўжо, і ён выставіў свой галоўны аргумент: "А якая карысць з гэтай вучобы? Ну што далі (гэта ён бацьку) два дыпломы табе? 50 тысяч, на якія і жыць па-чалавечы нельга... А маці — навошта ёй было заканчваць універсітэт? Каб цыраваць свае парваныя калготкі і лічыць да палучкі капейкі? Не хачу так жыць..."

Знаёмы матыў. Раней, у далёкія яшчэ фанвізінаўскія часы, падлеткі-недарослі заяўлялі: "Не хачу вучыцца, а хачу жаніцца". У сучасных падлеткаў гэта гучыць інакш: "Не хачу вучыцца, хачу гандляваць".

Відаць, самы цяжкавылечны вынік цяперашняга часу — бацылы гандлярства, якія пакалечылі чыстыя дзіцячыя душы. Самы небяспечны вірус для дзіцячага сэрца — зайздрасць, самае горкае пачуццё — непатольнае жаданне. Да чаго яны могуць прывесці — зусім непрадказальна. Хто ведае, можа, аднойчы хлопчык не вытрымае спакусы, якая падсцерагае яго на кожным кроку, і працягне крадком руку да недасягальнага для яго тавару. І калі гэтага не заўважаць і ён не будзе пакараны бацькамі, дык хто паручыцца, што яму не захочацца паўтарыць гэта зноў і зноў?

Самае простае тут — здзівіцца: ну і дзеці пайшлі, ім, бачыце, не патрэбна школа, ім падавай прыгожае жыццё. І зваліць на Віцьку і яму падобных усю сілу бацькоўскага гневу, а то і папругі. Але пастаўце сябе на месца Віцькі і тысяч — ды што там тысяч, мабыць, мільёнаў такіх жа хлопчыкаў і дзяўчынак з так званых малазабяспечаных сем'яў. Як ім штодзённа адварочвацца, уцякаць ад падсцерагаючых іх усюды спакус у выглядзе мноства заморскіх ласункаў, што выстаўлены ў крамах напаказ? Бо, нягледзячы на сваё імкненне здавацца дарослымі і незалежнымі, яны ж — дзеці! І, безумоўна, слухаць штодзённа лісілівыя тэлегаласы дэманаў-спакуснікаў: "Марожанае "Баунці" — райская асалода...", "Смачная мякаць какоса і тоўсты, тоўсты слой шакаладу..." — здзек з дзіцячай душы, якая пазбаўлена магчымасці паспытаць "райскай асалоды"...

Некалі, ў час нашага дзяцінства, рэдка хто з нас марыў аб прафесіі гандлёвага работніка. Хаця і ў савецкі час пры нашых пастаянных дэфіцытах гандаль заўсёды быў справай прыбытковай. Але ў нас былі іншыя крытэрыі, іншыя планкі, і нашыя хлапчукі марылі быць спачатку пагранічнікамі, потым даследчыкамі Арктыкі, пазней касманаўтамі, вучонымі, журналістамі, а дзяўчынкі — геолагамі, дактарамі, настаўніцамі і выхавацельніцамі ў дзіцячых садках, зусім не задумваючыся пра тое, колькі будуць зарабляць грошай.

Цяпер — іншы час, і нічога кепскага ў жаданні зарабляць вялікія грошы няма. Здзіўляе іншае — што грошы і толькі грошы сталі меркаю ўсіх каштоўнасцей жыцця. І што прафесары з высокай якасцю "шэрага рэчыва" ходзяць панылыя, з худымі партфелямі, а гандляры — з ганарова ўзнятымі галовамі і набітымі кішэнямі грошай. Вось у гэтым перакосе — уся справа. І пры такой з'яве хіба незразумела, у які бок пацягнецца ў сваіх марах дзіцячая душа!

Чаму тут здзіўляцца: не можа падняцца ў вачах нашых дзяцей каштоўнасць адукацыі, ведаў, дыплома, імідж інтэлігентнасці, пакуль гэтыя сапраўдныя, а не фальшывыя каштоўнасці не набудуць страчаную здольнасць забяспечваць павагу ў вачах людзей, прэстыж у грамадстве.

Вось да гэтага і павінна імкнуцца нашае да канца разгубленае грамадства. А дзяржава — весці прадуманую палітыку на павышэнне прэстыжу адукацыі і ствараць лепшыя жыццёвыя ўмовы людзям усіх прафесій, якія якасна выконваюць сваю работу, з высокім веданнем сваёй справы. Тады сама сабою паступова знікне эйфарыя гандлярства са збітай з панталыку дзіцячай душы. І Віцька перастане саромецца сваіх адукаваных бацькоў.

# Грымасы часу

*У наш эканамічна цяжкі час "камерсантамі" становяцца ўрачы і настаўнікі, работнікі культуры і студэнты, пенсіянеры і хатнія гаспадыні. Цяпер галоўны накірунак камерцыйных паездак не Польшча, а Масква, Санкт-Пецярбург, Смаленск. І Віцебск стаў у гэтых паездках зыходным пунктам. "Штурмуе" гандлёвы люд кожны цягнік, або "дызель", які накіроўваецца ў Расію. А вязуць, у асноўным, прадукты харчавання — тварог, вяршкі, смятану, малако, мясные паўфабрыкаты, каўбасу. Прадаўшы іх у Санкт-Пецярбургу па намінальнаму кошту Беларусі, але за расійскія рублі, "камерсант" мае нядрэнны навар, па курсу рубля. У самім жа Віцебску набыць гэтыя прадукты практычна стала немагчыма.*

*Адзінаццаці работнікаў мытнай службы, што кругласутачна нясуць службу на вакзале Віцебска, недастаткова для агляду пасажыраў усіх паяздоў, што накіроўваюцца ў Расію. Вываз тавараў і прадуктаў прадаўжаецца. Апошняе падаражанне прадуктаў у Беларусі на "бізнес" гандляроў не мела ўплыву. Рублі па-ранейшаму ў цане.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.*

**БЕЛАРУСКІ**

# Асімілёўвалі гвалтам.

### І. Знішчэнне мяжы іншароддзя

Нежаданне досыць значнай часткі людзей актыўна ўключыцца ў гістарычны працэс сучаснага беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння сёй-той спрабуе тлумачыць тым, што, маўляў, руская культурна-моўная асіміляцыя беларусаў адбылася цывілізаваным шляхам і пры поўнай іх згодзе, у адпаведнасці з законамі развіцця грамадства; што на працягу ўсяго сумеснага жыцця гэтых двух народаў у складзе адной дзяржавы не дапускалася аніякага гвалту і здзеку мацнейшага і слабейшага. Не, дарагія мае суайчыннікі. Руская культура, мова, звычаі ішлі ў наш край не па закліку яго жыхароў, а прымусова. А дзе і вельмі тонка, дыпламатычна навязваліся яму. Усё гэта пачалося ў тыя далёкія часы, калі асноўныя абсягі беларускіх зямель яшчэ знаходзіліся ў складзе Рэчы Паспалітай. Расійскую імператрыцу Кацярыну ІІ ніяк не задавальняў павольны ход двухсотгадовай асіміляцыі беларускага насельніцтва Смаленшчыны, што не садзейнічала і ажыццяўленню спрадвечных планаў далучэння да імперыі ўсходніх паветаў Рэчы Паспалітай, якая ўступіла ў паласу зацяжнога эканамічнага і палітычнага крызісу. Таму ў адным з сакрэтнейшых наказаў князю Вяземскаму яна патрабавала палітыку абрусення праводзіць не толькі ў дачыненні да Малай Расіі (Украіны), Ліфляндыі (займала поўдзень сучаснай Эстоніі і поўнач Латвіі), Фінляндыі, але і Смаленшчыны. У гэтых заходніх губернях імперыі, на думку Кацярыны ІІ, "парушаць прывілеі іх усе адразу вельмі непрыстойна было б, аднак і называць іх чужаземнымі і абыходзіцца з імі на гэтай аснове ёсць больш, чым памылка, а можна сказаць з пэўнасцю, што глупства... Іх трэба найлягчэйшым спосабам прывесці да таго, каб яны абруселі і перасталі глядзець як ваўкі ў лесе" (падкрэслена мною. — Л.Л.). Выходзіць, і смаляне ўсё ж ваўкамі глядзелі на тое, што рабілася ўладамі па асіміляцыі нярускіх народаў.

Зразумела, ніхто не збіраўся адмаўляцца ад такой палітыкі і ў тыя часы, калі яшчэ толькі першыя беларускія землі былі заняты рускімі войскамі ў выніку падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе. Дзеля аслаблення пільнасці, уводу народа ў зман Кацярына ІІ афіцыйна абяцала захоўваць усе этнакультурныя асаблівасці далучаных да імперыі паветаў, але ў тайных наказах накіраваным сюды намеснікам загадвалася праводзіць такую палітыку, каб паміж Беларуссю і Расіяй знікла ўсялякая мяжа іншароддзя і каб гэтыя, на думку заваёўнікаў, старажытныя абшары рускія зрабіліся рускімі не толькі адным іменем, але душой і сэрцам. Імператрыца і яе паплечнікі выдатна разумелі, што дасягнуць такога можна толькі праз адлучэнне беларусаў ад роднай мовы і замены яе рускай.

На нейкі час у пачатку XIX ст. свецкія (але не духоўныя) улады пад уплывам падзей у Еўропе адступіліся ад палітыкі абрусення Беларускага краю, што не спазніліся выкарыстаць палякі, актыўна ўзяўшыся насаджаць тут сваю культуру і мову.

Да асімілятарскай палітыкі Кацярыны ІІ звярнуўся, прычым яшчэ больш паслядоўна і настойліва, імператар Мікалай (1825—1855 гг.). Відаць гэта з дзейнасці сакрэтнага "Западного Комитета", у абавязкі якога ўваходзіла "прыраўнаваць адлучаныя ад Польшчы заходнія губерні ва ўсіх адносінах да ўнутраных вялікарасійскіх губерняў". У розных службовых матэрыялах і Беларусь, і Літва ўсё часцей называюцца аднароднымі з Вялікарасіяй па мове і веры. Каб слова "Беларусь" радзей, а не дык і зусім перастала гучаць з вуснаў людзей, Мікалай І прапанаваў у 1840 годзе афіцыйна называць яе Паўночна-Заходнім краем.

Распачаўшы пасля задушэння паўстання 1830—1831 гг. спрэс і ўсюды на Беларусі цясніць польскую мову, залежныя ад цэнтра мясцовыя чыноўнікі вельмі пільна сачылі, каб ні ў навучальных установах, ні ў службовым справаводстве, крый божа, на змену ёй не ўвялі беларускую мову. І гэта бліскуча ўдалося ажыццявіць, дзякуючы чаму значна ўмацаваліся на нашай зямлі пазіцыі рускай мовы.

Не даспадобы афіцыйным стаўленікам Пецярбурга і Масквы былі спробы пісаць творы мастацкай літаратуры на беларускай мове. Знайшліся ў іх аднадумцы і сярод некаторых прадстаўнікоў навуковай і творчай інтэлігенцыі, якіх дужа занепакоіла, што мастацкая літаратура на беларускай мове можа вельмі паспрыяць росту сярод яе носьбітаў нацыянальнай самасвядомасці і тады ўжо, мабыць, думалася, што ніхто не прымусіць іх адносіць сябе да рускіх. У публічным аплёўванні беларускай мовы рэкорд належыць прафесару кафедры славянскіх літаратур Маскоўскага універсітэта Восіпу Бадзянскаму, які, каб найлепш дагадзіць праваднікам русіфікатарскай палітыкі ў нашым краі, пісаў у 1846 годзе: "...мова, якая называецца беларускаю моваю, — гэта мова, на якой ніхто не гаварыў і не гаворыць, бо яна ёсць найагіднейшая мешаніна, якую толькі можна сабе ўявіць і якая калі-небудзь існавала на Русі".

Не, не паслухалі на Беларусі гэтай парады. Пісаць па-беларуску станавілася ўсё больш модным, і невядома, які размах набыў бы гэты прагрэсіўны адраджэнцкі працэс, каб не паражэнне паўстання 1863 года на чале з Кастусём Каліноўскім. Пасля расправы з ім русіфікацыя ажыццяўлялася ўжо непрыхавана, пад магутныя гукі фанфар, а не спакваля, маскіруючыся, як гэта часта практыкавалася раней. Усюды ў службовае справаводства без рэферэндуму, а звычайным афіцыйным парадкам замест польскай мовы ўводзіцца руская, мясцовыя чыноўнікі беларускага і польскага паходжання замяняюцца накіраванымі сюды асобамі рускай нацыянальнасці, у масавым парадку ідзе перасяленне ў наш край рускіх памешчыкаў з надзяленнем іх найлепшымі землямі, у Віленскай навучальнай акрузе ўводзіцца пасада памочніка папячыцеля для ажыццяўлення кантролю за ходам русіфікацыі ўсіх тыпаў навучальных устаноў. Стрыжнем ухваленай імператарам Аляксандрам ІІ ў красавіку 1864 года праграмы Мураўёва-"вешальніка" па замірэнню насельніцтва зямлі беларускай з'яўлялася: ...памножыць па магчымасці лік рускіх школ як паміж хрысціянамі, так і яўрэямі, каб руская мова была скрозь пануючай, як і належыць быць у рускім краі" (падкрэслена мною. — Л.Л.).

Праграма М.Мураўёва з зайздроснай упартасцю выконвалася рускімі чыноўнікамі, "выкліканымі з сэрца імперыі", якім выплачвалася 50 працэнтаў надбаўкі да акладу. З мэтай русіфікацыі нашага краю сюды ж на льготных умовах перасяляліся рускія памешчыкі і сяляне. Дзейсныя і тэрміновыя захады рабіліся тут па ўзмацненню ролі праваслаўнай царквы ў русіфікацыі сваіх вернікаў, на што ахвотна адгукнуліся рознага роду духоўныя чыноўнікі Расіі.

Самы ж моцны ўдар па маладым беларускім нацыянальна-патрыятычным руху нанесены ў 1867 годзе, калі цар Аляксандр ІІ выдаў спецыяльны ўказ аб забароне друкаваць кнігі на беларускай мове. Заўважым, што на польскай мове іх дазвалялася выдаваць на тэрыторыі Беларусі. Друкаваліся тут і яўрэйскія кнігі.

І на гэты раз афіцыйныя палітыкі не засталіся без падтрымкі рускіх вучоных і пісьменнікаў. Нават гісторык літаратуры, этнограф Пётр Бяссонаў, які шмат часу прысвяціў вывучэнню нашага фальклору і, значыцца, павінен быў бы з усёй прыхільнасцю паставіцца да культурнага лёсу яго носьбітаў, пісаў: "Пісьменнасць беларуская мае адно мінулае... Беларуская вусная народная мова ніколі не будзе мовай літаратурнай, пісьмовай і кніжнай; не здольна, не ў стане стварыць яе цяпер з уласных элементаў і пад уласным імя; згубіла той час, калі магла стварыць..." Маючы ад гэткага масцітага вучонага такі "акт экспертызы" на бесперспектыўнасць беларускай вуснай народнай мовы, чыноўнікі Паўночна-Заходняга краю без усялякай мукі сумлення дзесяцігоддзямі душылі ў самім зародку спробы беларусаў выдаць на сваёй роднай мове хоць якую-небудзь кніжачку ці адчыніць хоць пачатковую нацыянальную школку.

Добра падпітвалі праваднікоў русіфікатарскай палітыкі і іншыя вучоныя афіцыйнага напрамку ў гісторыі і культуры. Сказаў тут сваё "важкае" слова і выкладчык гісторыі і геаграфіі Віленскага рэальнага вучылішча П.Бранцаў. У кнізе "История Литовского государства с древнейших времен" (1889 г.) ён, да прыкладу, сцвярджаў, што руская "мова адна з самых багатых паміж арыйскімі мовамі", што "з поспехам велікарускай цэнтралізацыі палітычныя формы і ідэі маскоўскага народа ў цяперашні час усё больш і больш прымаюць нацыянальны характар і заглушаюць традыцыі беларусаў і маларосаў". Гэта падавалася чытачу як вялікі прагрэс, і, несумненна, сёй-той пападаўся на закінуты П.Бранцавым кручок.

Няцяжка зразумець, якія трывожныя думкі агортвалі беларусаў, калі ім удалося прачытаць радкі з напісанага вядомым даследчыкам К.Кюнам у канцы мінулага стагоддзя артыкула пра іх край: "Магчыма, нядоўга засталося гісторыі чакаць таго часу, калі словы "беларусы" і "Беларусь" стануць пустымі гукамі". Пры такім негатыўным стаўленні да культуры і мовы, самой назвы беларускага народа зусім рэальна, што сёй-той і з яго прадстаўнікоў мог недаацэньваць уласныя духоўныя

